На правох рукапісу.



# ЗОЛАК

ОРГАН МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДУМКІ

ГОД I. ВІЛЬНЯ ЛЮТЫ – САКАВІК 1933 №2

## АБ ТЭХНАКРАЦЫІ.

Пад назваю "тэхнакратаў" выступіла ў Амэрыцы невялікая група інжынэраў і эканамістаў з інж. Howard Scott-ам на чале, якая ўжо даўжэйшы час працавала ў калюмбійскім унівэрсытэце над "аглядам стану энэргіі ў Паўночнай Амэрыцы". Праца тэхнакратаў вялася ў сьцісла навуковым кірунку і дала навуковае канстатаваньне праўднасьці. Апошнія публікацыі высьледку іх працы зрабілі вялікую сэнсацыю як у самай Амэрыцы, таксама і ў Эўропе. Зацікаўленасьць навуковымі выснаўкамі групы амэрыканскіх тэхнакратаў зусім зразумелая, бо яны далі новае арыгінальнае тлумачэньне сучаснага гаспадарчага крызісу і назначылі радыкальныя сродкі для яго зьнішчэньня. Высьледкі іх навуковае працы агулам можна зьвясьці да наступнага.

Тэхніка апошняга стагодзьдзя, асабліва за апошнія 25 гадоў, зрабіла вялічэзны поступ. Аказваецца, што сучасны наш гаспадарчы і сацыяльны лад вельмі адстаў ад тэхнічнага поступу; і што пакідаць яго ў такім стане надалей зусім немагчыма. І сучасны гаспадарчы крызіс тэхнакраты тлумачаць іменна адсталасьцю грамадзкай арганізацыі ад тэхнічнага поступу. Машына і мёртвая энэргія ўсё болей і болей замяняе людзкую працу. Так, колькасьць работнікаў у стальным промысьле П. Амэрыкі ў 1929г. заставалася тая самая, што і ў 1887г., аднак сталі ў 1929 г. было выраблена 9 раз болей. У землярoбстве сяньня адзін работнік за гадзіну можа выканаць столькі працы, для выкананьня якой у 1840 годзе трэба было працаваць цягам гадзіны 3000 работнікам. Падобны аналіз прыводзіць тэхнакратаў да выснаўкі, што дасьпелае грамадзянства Злуч. Штатаў, працуючы чатыры гадзіны ў дзень і толькі чатыры дні ў тыдзень, змагло-бы абслужыць усе матарыяльныя патрэбы ўсяго жыхарства. Што тычыцца вышыні заспакаеньня патрэбаў кожнага жыхара, дык яно-б раўнялася дабрабыту чалавека, які мае, пры сучасных цэнах, 20.000 даляраў гадавога даходу. А тым часам, дзякуючы недасканалай сацыяльнай арганізацыі пры

стане сучаснай тэхнікі людзі цярпяць бяду і галіту.
Будучае, паводле тэхнакратаў, пры сучаснай гаспадарчай сыстэме, вельмі не завіднае. Адных безработных на 1935 год у Шаўн. Амэрыцы яны прадбачаюць да 20 мільёнаў. Наагул тэхнакраты пры сучаснай "цэнавай сыстэме" не знаходзяць жаднага выхаду з утварыўшагася палажэньня. Адзіным ратункам для сучаснасьці па іхняму можа быць толькі зьнішчэньне сучаснай цэнавай сыстэмы. Пры сучаснай цэнавай сыстэме выраб вядзецца выключна для зыску, а гэтым самым кепска ідзе раскладзел набыўчага сродку-грошай, як і кепская пакупная здольнасьць грамадзянства. Вынікам "цэнавае сыстэмы" маем тое, што пры здавальняючай колькасьці матэрыяльнага дабра на рынку, людзкія патрэбы не заспакойваюцца, тады як зыскі капіталістаў растуць, і, калі іх не пазычаць грамадзянству, астаюцца ляжаць проста адлогам. Вынікам усяго гэтага ідзе прагрэсыўны рост даўгоў. Меру вартасьцяў пры сучаснай цэнавай сыстэме - грошы, - тэхнакраты прапануюць скасаваць і замяніць іншай. Замест даляра прапануецца завясьці адзінку энэргіі працы - "эрг". Недасканаласьць грошэй, як меры вартасьцей, тлумачыцца тым, што матэрыяльнае дабро нельга мераць іншым матэрыяльным дабром, а што адзінай сталай і пэўнай мерай можа быць толькі адзінка энэргіі.
Каб людзтво магло выйсьці на праўдзівы шлях гаспадарчага жыцьця, тэхнакраты рахуюць, што да ўлады павінна быць паклікана тэхнакратыя. Якія-ж маюць быць узаемаадносіны паміж тэхнакратычнай уладай і грамадзянствам - пакуль што няведама. Ведама толькі тое, што тэхнакраты, як да камунізму, гэдак і да сацыялізму адносяцца нэгатыўна, бо, маўляў, не давяраюць "многагаловай чэрні". З спосабу-ж аргумэнтацыі тэхнакратаў можна заключыць, што ідэальнай уладаю для сучаснасьці можа быць толькі і н ж ы н е р с к а я д ы к т а т у р а.
Маючы досьвед мінуласьці, сацыялісты, як і наагул уся працуючая кляса, ня могуць зрачыся дэмакратычнага кантролю над выканаўчаю ўладаю і вызначэньня мэтаў для яе дзеяньня, хоць-бы да ўлады былі паклікаsuccessor найразумнейшыя асобы. Дыктатура, чыя-б яна ні была, будзе несьці з сабою заўсёды зьдзек і паняверку чалавека над чалавекам. Для нас тэхнакратычныя высноўкі важныя тым, што яны даюць разумнае тлумачэньне гаспадарчага крызісу і сьцьвярджаюць банкруцтва цэнавае сыстэмы, што сацыялісты даўна ўжо прадбачылі.

М - Н.

## ЦІ ПРАЦОЎНАЕ СЯЛЯНСТВА ЁСЬЦЬ ДРОБНАЙ БУРЖУАЗІЯЙ?

Сацыялісты-марксысты станоўча цьвердзяць, што носьбітам ідэй сацыялістычных ёсьць выключна пралетарыят, а працоўнае сялянства, хаця яно і не карыстаецца наемнай працай, але, дзеля таго, што мае ўласны варштат працы, зарахоўваецца імі да дробнае буржуазіі. Дробная сялянская гаспадарка рахуецца гэтымі сацыялістамі анахранізмам, адсталай, застарэлай формай землякарыстаньня, якая павінна аканьчальна загінуць. "Сучасны буйны капітал, кажа Маркс, паўстаў і прадаўжае павялічвацца праз нішчэньне дробна рамесьніцкага промыслу і сялянскай гаспадаркі. Гэтыя патрыярхальныя гаспадарчыя формы, выключаючы масавае скупчаньне прыладаў вырабу ў руках аднае асобы, выключаюць аднačасна і каапэрацыю, больш значны падзел працы ў даным працэсе вырабу, панаваньне над прыродаю, словам выключаюць разьвіцьцё грамадзкай вытворчай сілы." |Праф. М. И. Ивановов. Основныя положенія теоріи экономичэской політики.- ст. 95,96.|

Няма чаго дзівіцца, што такі пагляд на сялянства меў Маркс, бо за жыцьця яго буйная прамысловасьць ішла пераможным крокам уперад, ліквідуючы дробны прамысловы выраб. У сьведкі тагачасных падзеяў трудна было ня прыйсьці да высноўкі, што буйны капітал з бегам часу ня толькі зьнішчыць усе іншыя формы вырабу, але паводле капіталістычнага прынцыпу перабудуе ўсё жыцьцё чалавецтва. Так, у той час трудна было інакш думаць. Але не абавязкава трымацца гэтага цяпер, калі пэўныя галіны вырабу так і асталіся ў руках рамесьнікаў і ня відаць, каб яны перайшлі ўва ўладаньне буйнага капіталу ў блізэйшай будучыне. Што-ж тычыцца дробнага сялянства, дык яно ня толькі не адумірае, а наадварот - яшчэ пашыраецца на кошт буйнага. Буйная сельская гаспадарка далёка не заўсёды мае пяршэнства над дробнай, а ў краінах гадаўляных апошняя зьяўляецца нат болей жыцьцяздатнай.

Цьверджаньне-ж Маркса, што сялянства ня здольнае да каапэрацыі таксама памылковае, бо найлепшым доказам гэтага ёсьць разьвіцьцё сельскае каапэрацыі ў апошнія дзесяцігодзьдзі. Больш таго: многія эканамісты сьцьвердзілі, што дробная сялянская гаспадарка, паслугоўваючыся каапэратыўнымі арганізацыямі, ня толькі ня ўступае гаспадарцы буйнай, але зьяўляецца болей прадуктыўнай і рэнтоўнай, чым апошняя.

З гэтага відаць, што закон Маркса аб канцэнтрацыі капіталаў у руках паасобных адзінак у сучасны мамэнт нельга рахаваць агульна-абавязуючым, як нельга й надалей залічаць працоўнае сялянства да дробнае буржуазіі. Усё няшчасьце селяніна палягае ў тым, што ён мае ўласны кавалак зямлі, хоць часта з гэтае зямлі ня можа пракарміць уласную сям'ю. Тое, што ўласьнікі буйных капіталаў эксплёатуюць пралетарыят - гэта ясна, але гэта ня значыць, што кожнага ўласьніка можна залічаць да ворагаў сацыялізму - буржуазіі. Ёсьць такія "ўласьнікі", як пр. наш селянін, які сваю зямлю абрабляе ўласнымі рука-

мі і ня толькі нікога не эксплеатуе, але пераважна сам зьяўляецца абектам самага жорсткага вызыску.

Падзел усяе людзкасьці на дзьве варожыя класы — пралетарыят і буржуазію, прылучаючы да апошняй і працоўнае сялянства, як гэта робяць марксісты, ёсьць ня толькі ня правільным, але аднача сна зьяўляецца важнай перашкодай да рэалізацыі сацыялістычных ідэй.

Праўдзівы сацыялісты ня можа працоўны і эксплёатаваны элемэнт зараховываць да ворагаў працуючых — да буржуазіі. Праўда, людзкасьць можна падзяліць на дзьве адвечна варагуючых групы — на эксплёататараў і эксплёатуемых. Да эксплёататараў людзкое працы і ворагаў працоўных належаць, ня толькі ўласьнікі капіталу, якія карыстаюцца наемнай працай, але і цэлы рад служачага элемэнту, які хоць і ня ёсьць уласьнікам сродка вырабу і фактычна зьяўляецца пралетарыятам, але па тых функцыях якія выконвае, ёсьць відавочным прыладзьдзем эксплёатацыі.

Адпіханьне сялянства ў бок буржуазіі ёсьць праступным асабліва там, дзе сялянства ўжо праявіла сваю сымпатыю да сацыялізму, як гэта ёсьць у нас на Беларусі. Працоўнае сялянства дзякуючы сваей расьцярушанасьці, праўда, ёсьць меней зарганізаваным, чымся мястовы пралетарыят, а гэтым самым ня можа з такім посьпехам змагацца з буржуазіяй, як пралетарыят. Затое сялянства здольнае да канструктыўнае працы, калі ўлада знаходзіцца ў руках працуючых. Сацыяльная рэвалюцыя ў Расеі і Вэнгрыі паказала, што пры пераходзе фабрык і заводаў у рукі фабрычных камітэтаў, выконнасьць работнікаў, ня гледзячы на тое, што яны ўжо працавалі на сябе, панізілася да немагчымасьці. Нічога іншага, як гэта самае і змусіла пралетарскую ўладу ў СССР паставіць над работнікамі спэцыяльных наглядчыкаў і надзяліць такімі шырокімі правамі чырвоных дырэктароў, якіх падобныя адміністратары ня мелі раней за часоў царызму.

Тым часам працоўнае сялянства пасьля сацыяльнае рэвалюцыі, ня гледзючы на тое, што індывідуальнага права ўласнасьці на зямлю яно пазбавілася, ні чуць ня зьменшыла прадукцыі. Толькі калі савецкая ўлада пасягнула на прадукт працы селяніна, калі пачала рэквізаваць, тады сялянства мамэнтальна зарэгавала спадкам прадукцый.

З гэтага відаць, што працоўнае сялянства ня толькі ня ёсьць варожай да сацыялізму клясаю, але як такое, пры выключэньні зямлі з тавараабмену і застасаваньні ўсіх відаў каапэрацыі, можа стацца адною з падвалін будучага сацыялістычнага ладу.

М — н.

## САЦЫЯЛІЗМ І КААПЭРАЦЫЯ.

Заўсёды і ўва ўсіх народах было жывым лятуцьценьне аб залатым веку, аб нейкім іншым, больш справядлівым грамадзкім ладзе. Адны верылі, што гэты залаты век ужо даўна мінуў, і тварылі легенды аб бязгрэшным і бязтурботным жыцьці першых людзей у райскім садзе. Другія-ж чакалі збаўленьня ў будучым, жылі надзеяй у рай загробны, пасьля Страшнага Суду.

Праходзілі вякі, старыя рэлігіі гінулі, легенды забываліся, але вера ў лепшую, больш справядлівую будучыню аставалася несьмяротнай. Паўставалі ўсякага роду рэлігійныя хаўрусы, якія, адгарадзіўшыся ад грэшнага сьвету высокай сьцяной, хацелі ў нутры грамады зьнішчыць усякую няроўнасьць і несправядлівасьць. Ды жыць разам, карыстаючыся супольна вытварам уласнай працы, удавалася нядоўга. Хаўрусы распадаліся і чэзнулі, як толькі гас агонь рэлігійнага надзёму.

Ня больш удалымі аказаліся і спробы, паўстатуўшыя пад уплывам адзінак - кабінэтных мысьліцеляў, якія думалі шляхам добрага прыкладу перарабіць сучаснае ім грамадзянства. Гэтыя кабінэтныя вучоныя, гэтак званыя утапісты, стварылі нямала плянаў перабудовы грамадзянства. Адзін з іх, Шарль Фурe, прапанаваў стварыць фалянстэры г.з. такія хаўрусы, усе сябры якіх працавалі-бы супольна для заспакаеньня ўласных патрэб. Другі, Робэрт Оўэн спачатку хацеўшы стварыць дагодныя ўмовы працы для работнікаў працуючых на фабрыках, таксама прагалашываў стварэньне камун, напамінаючых фалянстэры Фурe. Калі-ж яму не ўдалося адразу прыступіць да рэалізацыі камунаў ён пры помачы сваіх бліжэйшых таварышоў стварыў некалькі "біржаў справядлівага абмену працы", у каторых сябры рамесьленых каапэратываў маглі-бы збываць свае вытвары, атрымліваючы за іх плату, вартасьць якой раўнялася колькасьці затрачанай на іх працы. Які-небудзь цесьля, зрабіўшы сякерай даволі прымітыўную рэч, і кваліфікаваны работнік, стварыўшы пры помачы самых разнаякіх інструмантаў шуд тэхнікі, павінны былі атрымаць тую самую плату, калі толькі выкананьне гэтых рэчаў заняло ў іх аднолькавую колькасьць часу.

Само сабой разумеецца, што пры такім спосабе расцэнкі - рэчы, каштуючыя ў прыватным гандлі дорага, ішлі ў оуэнаускіх біржах за бясцэнак, і, наадварот, танныя рэчы расцэніваліся нясумерна дорага. Скупшчыкі шыракa скарысталі з гэтага, і біржы справядлівага абмену рухнулі, не здолеўшы прынесьці ніякай карысьці работнікам. Аказалася, што нельга вырваць ацэнку працы работніка з агульнай рынкавай ацэнкі, нельга справядліва аплачываць працу, пакуль істнуе капіталістычны лад з яго прыватнай уласнасьцю на прылады і сродкі вытвару, з яго сусьветным рынкам.

Такі лёс спаткаў і розныя фалянстэры, камуны, вытво-

рча-рамесьленыя таварыствы, асабліва шчыра галешаных французам Бюшэ і асабліва моцна разьвіўшыхся ў Францыі ў часы рэвалюцыі 1848г. Усе гэтыя вытворчыя таварыствы фалянстэры і камуны ці сцэзнулі, не вытрываўшы канкурэнцыі з капіталістычнымі прадпрыемствамі, ці самі ператварыліся ў звычайныя капіталістычныя кампаніі з наемнай работніцкай працай. Здавалася, што пацярпелі поўны крах усе спробы стварыць новы, больш справядлівы грамадзкі лад, сацыялістычны лад, у якім ня было-бы ні багатых, ні бедных, ні падрываючых за фабрычным варштатам сваё здароўе работнікаў, ні багацеючых чужой працай капіталістаў.

Ды вельмі хутка, пасьля распаду гэтых першых спробаў сацыялістычнай перабудовы, сацыялісты зразумелі, што сацыялізм усё-ж ткі не зьяўляецца безвартасным і пазбаўленым грунту лятуцьценьнем. Трэба толькі да яго зрэалізаваньня ісьці іншым шляхам, чым ішлі дагэтуль.

Самым галоўным пахібам сацыялістычных вучэньняў утапістаў было тое, што гэтыя сацыялісты не змаглі знайсьці сапраўднага сродку, які-б быў дзеючым супроць капіталістычнага ладу. Большасьць з іх лічыла, што можна прыкладам больш дасканалай формы грамадзкай арганізацыі асягнуць маральнае перавыхаваньне грамадзянства, насьледкам чаго капіталістычны лад сам сабою згіне. Маральна-этычны момэнт, праўда, грае не малаважную ролю для зьмены сацыяльнага ўкладу грамадзянства, аднак ня ёсьць адзіным сродкам, так сама, як экономіка ня ёсьць адзіным і рашаючым фактарам для завядзеньня таго ці іншага сацыяльна-палітычнага ладу,на чым стала пасьля марксыцкая школа.

Галоўнае, што розьніць Маркса з яго папярэднікамі — утапістамі - гэта тое, што ён першы пабудаваў стройнае вучэньне аб клясавай барацьбе, як аб рухаючым чыньніку гістарычнага працэсу. Другая важная праблема якуюададатня разьвязаў Маркс - гэта разуменьне вартасьці, якую па яго думцы стварае выключна людзкая праца. Бяз працы няма вартасьці. Адсюль вывад, што вартасьць павінна належыць працы, гэта знача работніку. Далейшай праблемай якую разьвязаў Маркс - гэта вучэньне аб дадатковай вартасьці. "Працэс спажываньня рабочае сілы,-кажа Маркс,- ёсьць адначасна працэсам вырабу тавараў і дадатковае вартасьці, г.е. зыску". Паводле Маркса ні машыны, ні іншыя прылады і сродкі вырабу, у вырабным працэсе, зыску не ствараюць; толькі праца мяняе сваю вартасьць і яна толькі стварае зыск.Работнік ня толькі адрабляе эквівалент таго, што яму плаціцца за працу, але напрацоўвае яшчэ большую ці меншую звышку, дадатковую вартасьць,якую капіталісты забіраюць сабе. Такое рабаваньне работнікаў праз буржуазію тлумачыцца Марксам ні чым іншым як толькі існаваньнем інстытуту прыватнай уласнасьці.

Вучэньне Маркса, хаця дало моцныя падваліны сацыялістычнаму руху, аднак, будучы аднабокім матэрыялістычным вучэньнем, не змагло злучыць усіх сацыялістаў і са-

цыялістычны рух разьбіўся на шмат кірункаў, якія ня толькі ня выступаюць салідарна, але нават змагаюцца самым жорсткім спосабам паміж сабою. Насьледкам гэтага сацыялістычны рух ёсьць слабы, і ня мае належна разьвітых грамадзкіх і гаспадарчых арганізацыяў і інстытуцыяў, якія-б маглі пераняць на сябе гаспадарчыя і грамадзкія функцыі ад буржуазіі. А тым часам падзеі так шыбка пачалі разьвівацца, што колькі год таму назад аб такім шпаркім тэмпе ніхто ня мог і падумаць. Мы бачым, што сучасны гаспадарчы крызіс у сьвеце ня ёсьць часовым зъявішчам, што ён ёсьць насьледкам банкруцтва капіталістычнае сыстэмы. А дзеля гэтага сацыялісты павінны ўсе сілы зьвярнуць на адбудову сваіх грамадзкіх і эканамічных пляцовак, каб быць гатовымі да выкананьня сваей місіі.

Да такіх пляцовак, якія ўжо ў сучасных капіталістычных умовах зьяўляюцца эмбрыонамі будучых сацыялістычных формаў, трэба ў першую чаргу залічыць каапэрацыю, на якой мы тут спэцыяльна і затрымаемся.

Першыя каапэратары былі адначасова і сацыялістамі - утапістамі,- яны хацелі дасягнуць да сацыялізму шляхам аднэй толькі каапэрацыі. Аднак гэта ім не ўдалося. Каапэрацыя адна, бяз другіх формаў сацыялістычнага руху, ня зможа паваліць капіталістычнага ладу. Але поруч з другімі формамі руху працуючых, яна ў сваей галіне робіць прыблізна тую работу, якую ў галіне грамадзкай і палітычнай робяць прафэс нальныя саюзы і палітычна сацыялістычныя партыі.

Насамперш, без каапэрацыі ня было-бы тых арганізацыяў, якія-б змаглі пераняць ад буржуазіі функцыі гандлю і вырабу. Дзеля таго, што капіталізм з усёю сілаю душыць арганізацыі працуючых, дык зразумела, што каапэрацыя ў першую чаргу займае тыя пазыцыі, якія трудна заняць капіталістам, як прыкладам галіна дробнага сялянскага крэдыту.

Крэдытна-пазычковыя таварыствы, абхопліваючы сеткай вёскі, пазваляюць сялянам палепшыць гаспадарку, вызваліцца ад розных спэкулянтаў, і адначасна праз крэдытныя саюзы і цэнтральныя банкі зьвязываюць вёску з агульным грашовым рынкам, уцягіваючы яе ў кругабег сусьветнага абмену. Без каапэрацыі вёска асталася-б на баку і гаспадаркі сялян ня былі-бы ўцягнены ў той сусьветны абмен, дзякуючы якому шпарчэй пасуваецца наперад матарыяльная культура.

Такую самую ролю ў грамадзкай гаспадарцы адыгрывае і спажывецкая каапэрацыя. Яна выціскае непатрэбных пасрэднікаў у гандлі прадметамі першай патрэбы. Аб'ядныючыся ў саюзы, маючы свае фабрыкі і заводы, з сваімі параходамі і плянтацыямі, спажывецкая каапэрацыя ўжо ўступае ў барацьбу з добра арганізаванымі гандлёва-прамысловымі капіталістычнымі прадпрыемствамі. Ня глядзючы на тое, што каапэрацыя выступае заўсёды з абмежаным капіталам, як арганізацыя бяднейшых слаёў грамадзянства, усёж такі часта можа канкураваць з капіталістычнымі п-

радпрыемствамі.

Каапэрацыйная арганізацыя, пабудаваная на прынцыпах працілежных да прынцыпаў капіталістычных - спружынай каапэрацыі зьяўляецца не вайна ўсіх проціў усіх, не канкурэнцыя, а салідарнасьць, узаемапомач. Дзякуючы гэтым прынцыпам, каапэрацыя робіць дадатні ўплыў і на ўсё акружаючае асяродзьдзе. У каапэрацыі няма прыватнай уласнасьці. Наадварот, яна ствараe ў сваім разьвіцьці непадзельнае грамадзкае дабро - фабрыкі і заводы, належачыя спажывецкім таварыствам, каапэратыўныя банкі, вагромністы гандлёвы апарат; вакол яе ствараецца цэлая сетка разнаякіх прасьветных установаў. Усё гэта знаходзіцца ў вагульным валаданьні мільёнаў сяброў каапэрацыі, з каторых кожны карыстаецца роўнымі правамі і абавязкамі.

Для кіраваньня ўсім гэтым непадзельным грамадзкім дабром, каапэрацыя стварае складаную прамысловую дэмакратыю на сьцісла выбарных прынцыпах. Гэтым яна зрэалізоўвае ўжо цяпер, пры капіталістычным ладзе, тыя грамадзкія суадносіны, якія будуць існаваць пры сацыялізьме. І калі ў работніцкім руху дэмакратыя ствараецца шляхам доўгай клясавай самаарганізацыі і шляхам удзельнічаньня работнікаў у палітычным жыцьці краіны, дык у каапэрацыі дэмакратыя вырастае ў нутры прамысловых грамадзкіх прадпрыемстваў, як просты вынік іхняй гаспадарчай арганізацыі.

Бязумоўна, каапэрацыя ня ёсьць пабудаваная на чыста сацыялістычных прынцыпах, ды гэта і немагчыма пры існаваньні капіталістычнага ладу. Каапэрацыя таксама як і акцыйныя таварыствы выплачвае працэнты на паі, але гэта ня ёсьць яе мэтай - гэта падатак сучаснай капіталістычнай сыстэме, а мэтаю каапэрацыі ёсьць распадзел зыску паміж пайшчыкамі прапарцыянальна па закупам. Каапэрацыя не сацыялізм яшчэ і дзеля таго, што яна, дзякуючы магутнасьці капіталістаў, сьцісла агранічана рамкамі дробнага крэдыту, вытвару і абмену рэчамі масавага карыстаньня. Нельга падумаць, каб каапэрацыя сама, аднэю толькі канкурэнцыяй, змагла перамагчы вялікія капіталістычныя банкі і захапіць у свае рукі стрэстызаваную прамысловасьць. Капіталізм на гэтых сваіх вышэйшых ступенях разьвіцьця настолькі жывучы, што яму нечага баяцца канкурэнцыі каапэрацыі. Ён адпускае ёй толькі абмежанае, хаця і даволі шырокае, поле барацьбы супроць пасрэдніцка-спэкулянцкага капіталу.

Ня можа каапэрацыя распаўсюдзіць сваю чыннасьць і на такія рэчы першай патрэбы, заспакаеньне якіх павінна быць змонапалізованая. Электрыфікацыйныя, вадаправодныя, трамвайныя і каналізацыйныя кампаніі павінны быць замененыя мястовымі прадпрыемствамі. Але электрыфікацыя, трамваі і др. ня могуць быць скаапэратызаваныя, бо імі карыстаюцца ўсе грамадзяне даннага места, каапэрацыя-ж пабудована на прынцыпе дабравольнага падбору сваіх сяброў.

І ўсё-ж такі для каапэрацыі яшчэ ёсьць іншае неагляднае поле чыннасьці,- абеднаньне дробных уласьнікаў і спажыўцоў вёскі ў вялікія гаспадарчыя арганізацыі. Гэтым яна стварае непадзельнае грамадзкае дабро, якое зьяўляецца, як і мястовыя прадпрыемствы, адным з элемэнтаў будучага сацыялістычнага грамадзянства. Яна, нарэшце, як і работніцкія арганізацыі, сацыялізуе сьведамасьць працоўных, і, у сваіх унутраных суадносінах, стварае прамысловую дэмакратыю— узор будучага сацыялістычнага ладу.

Каапэрацыя - не сацыялізм, як не зьяўляецца вычэрпуюча сацыялістычным і работніцкі рух, бо за сацыялізм у сучасны мамэнт, ідзе барацьба на ўсіх плянцоўках сучаснага ладу, ва ўсіх яго палітычных, эканамічных і сацыяльных праявах. Але каапэрацыя зьяўляецца адным з поўнапраўных удзельнікаў руху працуючых. І ёй належыць асобная, праўда, мірная, але даволі шырокая і пачэсная роля.

а.

. . . . . .

## НАЦЫЯ, ЯК ПРАДМЕТ НАВУКОВАГА ВЫВУЧЭНЬНЯ.

Што гэта значыць - навуковае вывучэньне нацыі?

Гэта азначае, што мы хочам пазнаць навуковую праўду аб нацыі, хочам выкрыць і выявіць усе тыя ўласьцівасьці і асаблівасьці, якія ў сукупнасьці ствараюць своеасаблівы прадмет нашага пазнаньня - нацыю. Пры гэтым трэба прызнацца, што мы, бязумоўна, хочамо навуковую праўду выкарыстаць для нашых практычных мэтаў: мы хочамо выкрыць і выявіць тыя сілы, якія спрычыняюцца да ўзьніку нацыянальна-вызвальных рухаў, дзеля таго, каб у выніку навуковага веданьня іх мець змогу правідлова вызначыць шляхі і спосабы рэалізацыі гэтых рухаў.

Навука і жыцьцё, тэорыя і практыка не зьяўляюцца для нас нейкімі працілежнасьцямі, але злучаюцца ў адну пазнавальную судэльнасьць: ведаць, каб дзейнічаць.

Але што значыць навуковая праўда? Дзе і як маем шукаць навуковую праўду аб нацыі?

У нашым шуканьні праўды выходзімо з першапачатковага веданьня: з пазнаньня рэчаў, прадметаў, з веданьня фактаў сапраўднасьці. Нават і найбольш абстрактныя паняцьці, якія ўзьнікаюць у нашай сьведамасьці, мы зводзім на першапачатковае веданьне рэчаў.

З гісторыі паасобных галін людзкога веданьня мы чэрпаем перасьведчаньне, што навука вырастае з практычнага веданьня, а практычнае веданьне з досьведу. Досьвед аснова навуковае праўды.

З досьведу мы пазнаем і сваю нацыянальную прыналежнасьць. Калі я кажу "я - беларус", дык гэтым сказам я

вынўляю поўную суму жыцьцёвага досьведу. Я нешта перажыў, адчуў, перадумаў і ўсьвядоміў, каб змог, урэшце, сказаць "я – беларус". Гэтае "нешта" мною перажытае і ўсьвядомленае навучыла мяне адрозьніваць сябе ад іншых, ад палякаў, або, скажам, ад рускіх – ды прылучыць сябе да беларусаў. На ўласным досьведзе я навучыўся быць беларусам. Цяпер я ведаю сваю нацыянальную прыналежнасьць, але раней, калі быў яшчэ малым хлапчуком, гэтага ня ведаў, бо ніхто мяне гэтаму не навучыў, не перадаваў мне свайго ўласнага, або чужога жыцьцёвага досьведу ў азначаньні нацыянальнае прыналежнасьці. Мае веданьне вынікае з майго досьведу. Ведаю, бо пазнаў і ўсьведаміў сябе, бо пазнаў і ўсьвядоміў праявы акружаючага сьвету, бо ўсьвядоміў свой жыцьцёвы досьвед. Гэтае свае веданьне я перадаю іншым: другому, трэцяму, дзесятаму, а той кожны ізноў іншаму. Так у сапраўднасьці ўзьнікае і нашае веданьне аб нацыянальнай прыналежнасьці: з свайго ўласнага або з чужога досьведу.

З досьведу мы навучаемся пазнаваць і сваю асабістасьць. Наша я – гэта наш усьвядомлены досьвед. З досьведу і на досьведзе мы пазнаем нацыю. Дзеля гэтага нацыя ня ёсьць нешта надпачуцьцёвае, містычнае: нацыя ёсьць рэальнасьць.

. . . . .

Што ёсьць нацыя? Перш за ўсё гэта ёсьць слова. Як і кожнае слова, гэта ёсьць гукавы выраз поўнага псыхічнага стану. Гэта ёсьць выраз нейкага ўражаньня, адчуваньня, перажываньня, суджаньня, або, інакш кажучы, гэта ёсьць выраз поўнага стану сьведамасьці. Мы ўсьведамляемо, што нешта існуе і гэтае нешта азначаем словам нацыя. У кожным выпадку, калі мы кажам аб стане сьведамасьці, дык заўсёды маем на ўвазе тое, што ўсьведамляем, зьмест сьвядомасьці: мы заўсёды ўсьведамляем нешта канкрэтна-рэальнае. Ня іначай адбываецца і ў тым выпадку, калі мы кажам аб нацыянальнай сьвядомасьці: усьведамляемо канкрэтна-рэчаістае зьявішча. Навучаньне аб канкрэтным зьмесьце людзкой сьвядомасьці выключае супярэчнасьці паміж асабістасьцю і акружаючым асяродзьдзем, паміж субектывізмам і обектывізмам, бо нічога няма ў сьвядомасьці індывідуума, чаго-б ня было ў акружаючым яго асяродзьдзі.

Узьнікае пытаньне: калі і дзе мы сустракаемся з тым зьявішчам, якое называем словам нацыя?

Яшчэ ў раньнія дзіцячыя гады мы сустракаемся з тэю моваю, калі наша родная маці, схіліўшыся над калыскаю шэпча нам словы ласкі, навучае казаць першыя словы,- мама, тата. Сустракаемся з песьняй-калыханкай, з казкай-апавяданьнем пра дзіўны сьвет расьлін, жывёлы і людзей. А падрастаемо, навучаемся хадзіць і гаварыць,- увахо-дзімо ў кола сямейных і радзінных узаемаадносін, увахо-дзімо ў кола ўзаемаадносін акружаючага нас асяродзьдзя.

Перад намі адчыняецца новы сьвет розных рэчаў і зьяваў. Прагавіта ўспрыймаемо ўсе праявы жыцьця: усё нас дзівіць і цікавіць, усё мы хочамо ведаць. Мы ўважліва ўзіраемся на жыцьцё і дзейнасьць нашых бацькоў і вучыцялёў. Пазнаем іх звычаі і абычаі, іх досьвед, іх жыцьцёвую мудрасьць, пазнаем іх радасьці і гора-цярпеньні, іх лад і склад жыцьця,- іх жыцьцёвы стыль. Мы навучаемся адрозьніваць прыгожае ад брыдкога, ведаць дабро і злотое, што нам прыемнае, карыснае ў жыцьці, і тое, што няпрыемнае, шкоднае, што перашкаджае ў нашай дзейнасьці.

Жыцьцёвы стыль |культурны профіль| таго асяродзьдзя ў якім мы радзіліся, узрасьлі,- гэта ёсьць і наш жыцьцёвы стыль, гэта ёсьць нашае "я".

Мы любім, што навучаемся любіць у дзяцінстве, і ненавідзім, што зьневажае нашы пачуцьці.

Мы любім нашу мову, нашыя песьні, казкі, звычаі, наш лад і склад жыцьця,- жыцьцёвы стыль,- бо гэта мы, гэта нашае я. І ўсё, што зьневажае, што паганіць нашае я, мы ненавідзім, пагарджаем.

Любоў і ненавісьць зьяўляюцца галоўнымі чыньнікамі паступоўваньня ў дні нашай маладасьці.

Мы дасягаем сталага веку, набываем значны досьвед з свайго асабістага жыцьця, значна пашыраецца кола нашага веданьня. Мы пазнаем шырокі сьвет, ня толькі нашую родную вёску, мястэчка, ці места,- пазнаем наш край,- нівы, лясы, сенажаці, рэчкі й вазеры; пазнаем яго мінуўшчыну - тыя зьмены, якія адбыліся ў цягу стагодзьдзяў пад уплывам прыроды і рукі чалавека. Сустракаемся з людзьмі, якіх ніколі ў сваім жыцьці ня бачылі, але якія аднолькава з намі гавораць, аднолькавыя песьні пяюць, што тыя самыя-ж у іх звычаі, той самы лад і склад жыцьця. Яны таксама любяць і ненавідзяць, як і мы. Узьнікае ўражаньне, што гэтыя людзі- нашыя людзі, нібы-то блізкая радня. Паміж намі ўстанаўляюцца сяброўскія суадносіны, адчуваемо ўзаемную сымпатыю і спогад. Асабліва яскрава гэта выяўляецца, калі мы апыняемся ў незнаёмым для нас асяродзьдзі, дзе іншая мова, песьні, звычаі дзе іншы тэмп і характар жыцьця.

З досьведу мы навучаемся ведаць, што ўзаемная падобнасьць між людзмі выклікае пачуцьце свойскасьці і ўзаемнае справядлівасьці; і наадварот, узаемная адрознасьць выклікае пачуцьцё адчужасьці, узаемнае падазронасьці і варожасьці. Таму ўзьнікаюць і азначаньні: свой і чужы. Гэтыя азначаньні - свой і чужы - ужываюцца ня толькі ў адносіньні да людзей, якіх пазнаем пры спатканьні, але і ў адносіньні да нашых продкаў, да гістарычнае мінуўшчыны; таксама і ў адносіньні да прыроднага краявіду.

Пасвайчанасьць або адчужанасьць вызначаюць шляхі і спосабы міжлюдзкіх узаемаадносін - да сябе, ці-то ад сябе. Людзі, якія маюць пачуцьцё сваяцтва, выступаюць у адносіньні да іншых людзей узгоднена, аднэй грамадою

паміж імі адбываюцца злучэньні і аб'еднаньні, у кожнага ёсьць і імкненьні да гэтага. Аднак імкненьні да злучэньняў адбываюцца ня толькі дзеля падобнасьці, але і дзеля ўзаемнае карысьці; паміж сваімі людзьмі існуе ўзаемная зацікаўленасьць: у бядзе свой свайму хутчэй дапаможа, чымся чужому. З гэтуль вынікае супольная радасьць і гора, супольны лад і склад жыцьця – жыцьцёвы стыль. Большая ці меншая грамада людзей, якія маюць супольны лад і склад жыцьця, ёсьць калякты́ў, жывая калякты́ўная асабістасьць. Грамада – адзін вялікі чалавек. Гэта калякты́ўная асабістасьць – грамада – завецца народам.

Агульна ведама, што людзі, якія маюць супольную жыцьцёвую зацікаўленасьць, уваходзяць паміж сабою ў сталыя стыкі і ўва ўзаемаадносіньні. Гэта асабліва яскрава выяўляецца ў часы якой-небудзь небясьпекі, калі навісае чорная здань пагрозы супольнай зацікаўленасьці. Узьнікае трывалая сувязь узаемачыннасьці, калі паступоўваньне адных знаходзіцца ў функцыянальнай залежнасьці ад паступоўваньня іншых. Ствараюцца першыя падваліны самаарганізацыі: узгодненая дзейнасьць усіх на карысьць усіх.

Супольная жыцьцёвая зацікаўленасьць зьяўляецца галоўным чыньнікам усупольненя. Гэта ёсьць магутная сіла, якая народ ператварае ў арганізаванае супольства. Але кожная арганізацыя – наўмысная і ўсьвядомленая мэтазгодная дзейнасьць. Мэта вызначае і спосаб дзейнасьці. Усьвядомленьне ўсенароднай жыцьцёвай зацікаўленасьці – гаспадарчых, культурных і палітычных падвалін існаваньня народнага супольства, стаўленьне мэтаў яго будучыні – азначае ўзьнік нацыянальнай сьведамасьці.

Арганізаваны і сябеведамы народ ёсьць нацыя.

. . . . .

Праблема нацыі – гэта ёсьць праблема арганізацыі. Калі існуе ўсенародная арганізацыя, дык існуе і нацыя, а няма ўсенароднай арганізацыі, дык няма і нацыі.

Але хто стварае ўсенародную арганізацыю, хто творыць нацыю?

Каб адказаць на гэтыя пытаньні, трэ мець на ўвазе розьнасьць паняцьцяў: народ і нацыя. Розьнасьць гэта палягае ў тым, што народ ёсьць этнічнае зьявішча, этнос, што родзіцца і памірае, род-на-род, а нацыя – супольнае зьявішча, што творыцца і занікае. Народ – прыроднае грамадзтва, а нацыя – культурнае супольства. У жыцьці народа пераважае інстыктыўная чыннасьць, а ў жыцьці нацыі – наўмысная і ўсьвядомленая дзейнасьць.

Мы кажам: народ ператвараецца ў нацыю. Але хто творыць нацыю: безназоўныя грамады, ці сябепэўныя адзінкі? Нацыю твораць усе тыя актыўныя і сябеведамыя адзінкі, што сьвядома прыймаюць чынны ўдзел у агульным працэсе ўсенароднага ўсупольненя. У аднолькавай меры твораць нацыю сяляне, работнікі, інтэлігэнцыя, калі яны сьвядо-

ма выступаюць у ролі інжынераў суспольнага будаўніцтва, ствараюць культурныя, гаспадарчыя і палітычныя арганізацыі. Хай сабе кожны цярэбіць сваю дзялянку, хай вольна працуе ў якой сабе хоча арганізацыі, але ўсе павінны мець адну супольную мэту, якая, нібы закон прыроды, вызначае шляхі і способы іх дзейнасьці. Мэта гэта – самастойнае існаваньне таго народнага суспольства, членамі якога яны зьяўляюцца.

Можа быць вагромністае мноства розных способаў самаарганізацыі, розных формаў арганізацыі,– гэта залежыць ад сацыяльнае структуры таго ці іншага народу. Але ёсьць адна ўнівэрсальная форма арганізацыі, якая найбольш забясьпечывае самастойнае існаваньне суспольства; гэта ўсеагульная форма арганізацыі – дзяржава.

Дзяржава ёсьць няўхільная форма арганізацыі кожнага суспольства. Толькі праз самастойную дзяржаву суспольства дасягае ўзвышша свае культурнае, гаспадарчае і палітычнае самаарганізацыі; толькі праз самастойную дзяржаву народ-суспольства абяртаецца ў нацыю і здабывае сабе роўнаправнае мейсца ў сыстэме міжнародных узаемаадношаньняў.

. . . . .

Нацыя і дзяржава ёсьць неразлучныя паняцьці. Як нельга ўявіць рэч без яе вонкавай формы, гэтак і нацыю без яе дзяржавы. Кожная нацыя мае быць дзяржаваю, а кожная дзяржава нацыянальнаю. У гэтым сэнсе маем разумець і прызнаньне права нацыяў на вольнае самаазначэньне. Пасьлядоўнае і бескампрамісовае зьдзейсьненьне права нацыяў на вольнае самаазначэньне – гэта стварэньне самастойных нацыянальных дзяржаваў.

Няма ніякага сумліву, што з правядзеньнем у жыцьцё азначанага пастуляту, няўхільна павінны зьнікнуць шмат нацыянальныя дзяржавы. Перад апошнімі паўстаюць дзьве дылемы, два гістарычна-немінуючыя шляхі,– або ператварыцца ў вольны саюз вольных народаў, або – зьнікнуць з гістарычнае сцэны. У гэтым кірунку і разьвіваецца працэс гістарычнага поступу. Народ, які імкнецца да свае волі і дзяржаўнае самастойнасьці, раней ці пазьней дасягае свае мэты: будзе вольным і дзяржаўна самастойным народам. А дзяржаўны народ – нацыянальнае суспольства, нацыя.

. . . . .

Узьнікае пытаньне: калі дзяржава ёсьць няўхільнай формай арганізацыі нацыянальнага суспольства, дык як магчыма існаваньне недзяржаўных нацый? Ці можна ўважаць за нацыю той народ, які ня мае свай самастойнай дзяржавы? У чым, уласна, палягае крытэрый азначаньня нацыі?

Адзіным пэўным крытэрыем для азначэньня нацыі зьяўляецца сьведамасьць народных мас у патрэбнасьці стварэньня самастойнае дзяржавы, што, у свой чарод, зьяў-

ляецца канкрэтным выяўленьнем жыцьцёвай зацікаўленасьці народнага арганізму. Толькі той народ можна ўважаць за нацыю, які ўжо мае, або імкнецца мець, сваю дзяржаву. Народ, які яшчэ ня мае жаданьняў мець сваю дзяржаўную арганізацыю, ня ёсьць нацыяй.

Сьведамасьць патрэбнасьці ў стварэньні самастойнае дзяржавы, як і кожны стан сьведамасьці індывідууму або калектыву, выяўляецца ў дзейнасьці. Дзяржаўныя нацыі імкнуцца ўтрымаць і замацаваць самастойную дзяржаву, а нацыі недзяржаўныя - стварыць сваю самастойную дзяржаву. Розьніца палягае ня ў большай ці меншай нацыянальнай сьведамасьці, а ў арганізаванасьці і тэхнічнай магчымасьці рэалізацыі аднае і тае-ж самай мэты - мець самастойную дзяржаву.

З гэтага ясна, што ня гэтулькі сапраўднасьць, як уява зьяўляецца рухаючай сілаю нацыянальна-вызвольных рухаў, уява аб вольнай і самастойнай дзяржаве. Разумоўна нашае ўяўленьне ўзьнікае з рэальнасьці, сапраўднасьці. І чым цямнейшай ёсьць гэтая сапраўднасьць, тым сьвятлейшыя, прамяністейшыя нашыя ўявы-імкненьні!

* * *

І так: што пазнаем, калі вывучаем нацыю?

Мы пазнаем вельмі складаную сувязь міжлюдзкіх узаемаадносін - ад сябе і да сябе; пазнаем арганізацыю і самаарганізацыю народу, або, інакш кажучы,- пазнаем сацыятэхніку.

Дзеля гэтага, хто хоча ведаць што ёсьць нацыя, павінен навучыцца спасьцерагаць праявы жыцьця акружаючага нас асяродзьдзя, у першую чаргу,- навучыцца бачыць тыя ценькія сацыяльна-псыхічныя ніці, якія зьвязваюць народ у адно суцэльна-арганізаванае грамадзянства,- супольства.

Ня ў імглістым узвышшы фантастычных лятуценьняў трэба шукаць нацыю, а ў рэальных міжлюдзкіх узаемаадносінах - у арганізацыі і самаарганізацыі народнага калектыву!

Т.Г.

ЦІХА Ў ПОРЦЕ...

Тлум шумеў,
кіпеў ля параходу,
ў Аргентыну плыў жывы тавар.
Цёплы вецер, з роднай стараны, з усходу,
раз апошні галаваў ім рукі, твар...
"Хлеба! хлеба зарабіць кавалак" -
кожны думаў, і глядзеў у даль:
як нёс сіні-вецер вал за валам,
як нёс мора думак, мора хваль...

А імгла
спусьцілася над морам,

абняла акіянскі параход.
Хтось іграе, на гармоніку гавора:
пра біду, пра гора, пра народ...

Цёплы вецер,
з роднай стараны,
з усходу,
раз апошні цалаваў ім рукі, твар.
Ціха ў порце,
бо, на параходзе
ў Аргентыну адплыў жывы тавар...

Аўгень Бура.

. . .

ПЯТНАЦЦАТЫЯ ЎГОДКІ

АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ.

25-га сакавіка с.г. спаўняецца 15 год ад часу абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Пятнаццаць год у жыцьці народу не зьяўляецца знач ным пэрыядам, але г э т ы я пятнаццаць год,- ад 25 сакавіка 1918 г. і да апошніх дзён,- у разьвіцьці беларускага руху маюць эпохальнае значаньне. Сваею III-яй Устаўнай Граматай з 25. III. 1918г. Рада Беларускай народнай Рэспублікі прагаласіла, што "скінула з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары"... "Ад гэтага часу Б е л а р у с к а я Н а р о д н а я Р э с п у б л і к а а б в я ш ч а е ц ц а н е з а л е ж н а ю і в о л ь н а ю д з я р ж а в а ю ...- на моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі".

Праўда, непасрэдна-канкрэтных здабыткаў беларускаму народу гэты акт ня даў дый ня мог даць,- для гэтага ня было арганізаванай фізычнай сілы. Але затое гэты акт меў вялічэзнае значаньне для ўсяго далейшага разьвіцьця беларускага руху, апошняму была дадзена гэтым новая мэта, зазначаны новыя пэрспэктывы. Да таго часу ідэя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі нідзе нікім не закранался, ня ставілася на парадак дня. Раней усіх захапляла або толькі справа пашырэньня і ўмацаваньня пашаны да роднай мовы сярод беларускага народу, або справа разбуджаньня ў шырокіх масах настрояў сацыяльнага бунту.

У выніку гістарычных падзей, адбыўшыхся на абшарах нашай бацькаўшчыны, нам асталіся ў спадчыну напластаваньні ці то польскай ці то расейскай культуры, блізкіх да апошняй сацыяльна-палітычных зацікаўленьняў, ільлюзій. І трэба было прайсьці, як інтэлігенцы, гэтак і

беларускаму народу, праз горан рэвалюцыйных падзеяў 1917 году, трэба было на практыцы пабачыць крах сваіх ілюзій, каб адважыцца стаць на грунт незалежніцкіх ідэалаў.

Яшчэ і на Усебеларускім Зьезьдзе 15-17.XII.1917году не магла быць паднятая справа незалежнасьці Беларусі. Гэты кангрэс, які складаўся з 1167 праўных прадстаўнікоў вёсак, валасьцеў, мест і мястэчак ды розных грамадзкіх арганізацыяў, прызнаў у сваей пастанове неабходнасьць патрыманьне ўсяе Расійскай Дэмакр тычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі.- "Замацоўваючы свае права на самаазначэньне,- чытаемо ў першым адзіна толькі ўсімі прынятым пункце "Пастановы" І-га Усебеларускага Зьезду,- прагалошанае расійскай рэвалюцыяй і заводзячы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах беларускай зямлі, для ўратаваньня роднага краю, і абароны яго ад падзелу і адарваньня ад Расійскай Дэмакратычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі, І-шы Усебеларускі Зьезд пастанаўляе: зараз-жа утварыць з свайго складу орган краевай улады ў постаці ўсебеларускай рады сялянскіх, салдацкіх і работніцкіх дэпутатаў, які часова стае на чало ўпраўленьня краем і ўваходзіць у дзелавыя зносіны з цантральнай уладай, адказнай перад радай работніцкіх, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў." |Ф.Турук. Белорусское движение.Москва,1921.бач.105,дадатак №15.|

На гэтым пункце і супынілася нармальная праца Зьезду, бо ў ноч з 17 на 18 сьнежня 1917 г. апошні быў разагнаны.

Зьезд быў разагнаны не за спробу зьмены формы палітычнага ладу на Беларусі, не за спробу аддзяленьня ад Расеі,- гэтаму пярэчыла выразна фэдэрацыйнае становішча ўдзельнікаў Зьезду нат і па разгоне яго |Адозва-пратэст сяброў Бел. Зьезду супроць яго разгону.|,- прычына разгону Зьезду ляжала ў іншай плашчыне. Яна палягала ў тым, што "высказаўшыся ў засадзе за ўзнаньне Радавай Улады, паскольку яна існуе ў Расеі, і за кантакт з Цантральным Урадам Народных Камісараў, Зьезд адкінуў устаноўленую Радамі ўладу для мясцовага краю, перадаючы яе абранаму на зьезьдзе арганізацыйнаму воргану Рады|Зьезду - рэд.|. |Ф.Турук.дадатак №16.|.

Тут скрыжаваліся два праціллежныя кірункі - цантралістычна-дыктатарскі ў постаці бальшавікоў і дэмакратычна-фэдэралістычны, дэцэнтралістычны, у постаці сяброў Усебеларускага Зьезду. Перамога асталася за лепш арганізаваным, больш магутным чыньнікам.

Разгон Зьезду,аднак, пакінуў у-ва ўсіх бяз вынятку беларускіх палітычных групах глыбокае назадаваленьне, пратэст. Усе мелі магчымасьць навочна пераканацца, што лёзунг самаазначэньня нацый - пусты гук, паскольку няма рэальнай сілы для зьдзейсьненьня яго, што кожная спроба ў кірунку арганізацыі ўласных сіл сустрэне самы рашучы адпор з боку ўладу маючых, дый што беларускія працоўныя грамады і надалей павінны будуць ці цярпліва зносіць апеку дужэйшых, ці павясьці барацьбу з цэнтра-

лізмам.

Да апошняга не дайшло, бо ў хуткім часе бальшавіцкая улада пакінула Менск і адыйшла за Дняпро, а над краем завісла пагроза нямецкай акупацыі. Простае пачуцьцё сябезахаваньня настойліва дыктавала ўзяць сваю долю ў свае ўласныя рукі.

Маючы гэта на ўвазе, Выканаўчы К-т Рады Ўсебеларускага Зьезду 28 лютага 1918г. у сваей І-ай Устаўной Грамаце да народаў Беларусі прагаласіў, што "беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё неадмоўнае права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці – на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію".

Зьмест "поўнага самаазначэньня Беларусі" раскрываецца ў ІІ-ой Устаўнай Грамаце, датаванай 9-га сакавіка 1918 году. Пункт І-шы гэтай Граматы коратка гаворыць, што "Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай

"5- ...абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забостовак, хаўрусоў,безумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

"6- У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

"7- У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, хто самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нетры зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

"8- У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-і гадзінны рабочы дзень", ды інш.

Тут маем тыя сацыяльна-палітычныя і нацыянальныя асновы, на якіх меў быць пабудаваны гмах дзяржаўнай незалежнасьці. Дзякуючы гэтаму можна было-б гэтую Грамату назваць Канстытуцыяй Беларусі.

Ня гледзячы на дэкляратыўны толькі характар як ІІ-й гэтак і ІІІ-й Устаўных Грамат,- для свайго ажыцьцяўленьня яны ня мелі адпаведна арганізаванай беларускай сілы,- абедзьве гэтыя Граматы адыгралі ў беларускім руху вялічэзнае значаньне. Яны рубам паставілі на парадак дня набалелыя сацыяльна-палітычныя праблемы. Кінутыя ў масы беларускага народу, яны з яго боку не маглі ня выклікаць да сябе ці то спачуцьця, ці то варожасьці. Рэагаваньне на пастаўленыя праблемы падымала палітычную сьвядомасьць беларуса, фармавала й гартавала яе. Стваралася атмасфэра інтэнсыўнасьці палітычнага жыцьця, а гэтым самым падрыхтоўвалася глеба для ўзапраўдных палітычных пабудовак. Устаўныя Граматы і зьвязаная з імі палітычная акцыя здавалі ў архіў нябыцьця расплывістыя настроі ранейшага незадаваленьня і абурэньня існуючым ладам рэчаў, ставячы замест гэтага канкрэтныя заданьні.

Акт незалежнасьці Беларусі, як і наагул уся чыннасьць тагачасных"менскіх незалежнікаў" мелі ўплыў ня толькі ў сфэры беспасярэдняй дасягаемасьці іх, на тэрыторы

занятай немцамі, але пасрэдна і па за ёю. У Маскве, Ленінградзе ды інш. местах Расіі, на тэрыторыі Вітабшчыны, Магілеўшчыны і Смаленшчыны, пазастаўшай пад уладай бальшавікоў, шырокай хваляй пранясьліся пратэсты супроць акцыі "менскіх незалежнікаў". Гэтыя пратэсты, што праўда, адбываліся ў духу фэдэралізму Беларусі з Расійскай Фэдэралістычнай Рэспублікай, але адначасна і неадкладнага выдзяленьня ўсіх беларускіх земляў, што пазаставаліся пад бальшавіцкай уладай, у аўтаномную Беларускую Обласьць. Асабліва характэрнымі ў гэтым сэнсе былі рэзалюцыі-дамаганьні Усерасійскага Зьезду беларусаў-бежанцаў у Маскве 17—21 чэрвеня 1918 году, сходу беларусаў-работнікаў Пуцілаўскага заводу ў Ленінградзе 4-га жніўня т.г., ды беларусаў-маракоў бальшавіцкай флёты ў Кранштадце 2 і 3 жніўня таго-ж году. Былі высунуты ня толькі дамаганьні перайменаваньня Заходняй Обласьці на Беларускую Обласьць, але дамаганьні згоды Цантральнай улады на завядзеньне ў ёй самаўрадаваньня з Радай Б е л а р у с к і х Сялянскіх і Работніцкіх Дэпутатаў на чале. |Час. "Чырвоны шлях", №3-4, Петраград, 1918г.|

Гэты рух зкусіў выступіць з аналягічнымі дамаганьнямі перад адпаведнымі [illegible] чыньнікамі і Беларускі Нацыянальны Камісарыят у Петраградзе. Сябры апошняга — Я. Лагун і Войтка 16 жніўня 1918 г. зрабілі ў гэтай справе даклад на паседжаньні Абл. Вык. К-ту Зах. Обласьці і Фронту, дамагаючыся перайменаваньня Зах. Обласьці ў Беларуска-Літоўскую. Аднак Обліскамзапаўцы на гэта не згадзіліся, а як-бы ў адказ зьмянілі назоў на Заходнюю Камуну |Ж.Х.З.-"Арганізацыя сіл" |да гісторыі Сав. Беларусі|, "Полымя", №2|10| 1924г.|.

Дамаганьні зьмены назовы матываваліся тым, што "незалежнікі" падкрэсьлівалі тожсамасьць "Заходняй Обласьці" з "Паўночна-Заходнім Краем", назвай, дадзенай Беларусі царскім русіфікатарскім урадам. Патрэбна было шмат даўжэй трываючых намаганьняў з боку беларускіх бальшавікоў, патрэбна было перажыць яшчэ рад розных непаводжаньняў, каб у старой цэнтралістычна-вялікадзяржаўніцкай псыхіцы расійскіх бальшавікоў паўстала прабоіна і на 1-га студзеня 1919г. змог паўстаць акт утварэньня БССР. Пасьля вялікіх намаганьняў бальшавіцкі Менск урэшце здабыўся на даўно чаканы самаўрад, на аўтаномію.

Акт Незалежнасьці Беларусі, прагалошаны 25-га сакавіка 1918г., не зрэалізаваны і да апошніх дзён. Тварцы акту незалежнасьці ўсю сваю чыннасьць скіравалі не на справу арганізацыі шырокіх беларускіх масаў, не на моцную ўвязку з імі, што толькі і змагло-бы ажыцьцёвіць дэкляратыўныя лёзунгі акту, але застраглі і т.зв. "высокай палітыцы", у запраўднасьці-ж — палітычнай спэкуляцыі.

І не патрэбна быць фарысеямі і выхваляць чыстату сваіх нацыянальна-незалежніцкіх чынаў, каб ня відаць, што рэалізацыя ідэалаў незалежнасьці зможа прыйсьці ў выніку шырокай складанай чыннасьці беларускіх працоў-

ных грамад, якая будзе багатай і на здабыткі, і на страты, і на абмылкі. У муках змаганьня, у выніку цяжкай напружанай і мазольнай працы прыйдзе рэалізацыя незалежнасьці Беларусі. Яна прыйдзе са значна шырэйшым і паўнейшым зьместам, чым гэта было закрэслена нязначнай колькасьцю людзей 25-га Сакавіка,- у выніку сучыннасьці мільёнаў працоўных яна паўстане т о л ь к і п р а ц о ў н а й , с а ц ы я л і с т ы ч н а й .

К. Жуковіч.

## ХРОНІКА.

Ахвярай шалеючага крызысу і агульна-беларускай галечы стаўся наш рэдактар т.А.Аніська. Мала таго што жыцьцёвыя ўмовы тут для яго, як урэшце і для кожнага студэнта-беларуса, былі вельмі цяжкія, ён да ўсяго яшчэ быў за неаплату навучаньня выдалены з Унівэрсытэту.

Выказваючы жаль з прычыны прымусовага выезду т.А.Аніські на вёску і зьмены ў зьвязку з гэтым рэдактара, Рэдакцыя зазначае, што напрамак часопісі ані яе характар ад гэтага ня зьменіцца,- ён і надалей будзе арганічным працягам засадаў першага нумару.

2-га лютага с.г. ў Бел. Студ. Саюзе прачытаў рэфэрат д-р М.Чэрнэцкі на тэму: "Асновы сучаснага беларускага руху."- Дзеля нястачы месца галоўныя тэзісы рэфэрату падамо ў наступным нумары.

5-га лютага с.г. ў салі Сьнядэцкіх Віл. Унівэрсытэту адбыўся "вечар паэзіі бунту", ладжаны Незалежным Сацыялістычным Саюзам Студэнтаў УСБ. Прачытаны быў рэфэрат аб новых формах у літэратуры, прадэклемавана і прачытана рад вершаў у польскай, жыдоўскай, літоўскай і беларускай мове. Гэты вечар з аднолькавым правам можна было-б назваць і вечарам паэзіі Маякоўскага, гэтак многа было прадэклемавана яго вершаў |у польскай мове|.

Хваля студэнскіх забурэньняў |у сувязі з скасаваньнем Аўтаноміі ў-таў|, якая пранеслася па ўсіх польскіх вышэйшых школах, [illegible] паволі і бясплодна ўціхае. Скасаваньне аўтаноміі ў-таў ёсьць толькі малой праявай у агульнай сыстэме наступованьня пануючага рэжыму. Здабыцца на адмену першай, значыць, трэба дзе-што зьмяніць і ў другой. Гэткія-ж рэч не пад сілу рэакцыйнага, у пераважнай большасьці, польскага студэнства, якое ў сваей дзейнасьці рашуча адсэпаравалася ад шырокіх масаў народу. Дзеля гэтага зусім слушная барацьба польск. студ. за аўтаномію ў-таў мала ў каго выклікае для іх настрої спагаду. Ува ўсіх на памяці яшчэ жыдоўскія пагромы, зладжаныя нацыяналістычным студэнствам, ня зьніклі з яго ідэйнага багажу "нумэрус кляўзусы" ды іншыя красачкі. Спогад для [illegible] студэнстве толькі тады зможа зьявіцца

калі яно пойдзе ў ногу з інтарэсамі шырокага агулу працуючых.

Апошні працэс Б.Тарашкевіча ў віл. апэляцыйным судзе, які адбыўся 24.II.33г., нічога ня даў новага, што магло-б паўней асьвятліць і справу і самую асобу падсуднага. Рэчы прынцыповага характару 24.II.33г. не падымаліся,- абедзьве старэны абмежыліся толькі высьвятленьнем малавартасных фактаў,- Б. Тарашкевіч астаўся пры сваім "верую", прагалошаным на працэсе 29.XI.1932г.

Тарашкевіч, у сваей сацыяльна- палітычнай барацьбе за лепшую долю беларускага народу, прайшоў надзвычай характэрны і павучальны шлях:- ад нац-дэмакрата і палянафіла ён прыйшоў да б у н т а р с к і х, сацыялістычна-рэвалюцыйных настрояў, да поўнае нэгацыі свайго ранейшага становішча. Аднак, ані на працэсе "Грамады" 22.V.1928г., ані 29.XI.1932, у сваім вызнаньні новага "верую" Тарашкевіч не здабыўся на такое-ж ясна-акрэсьленае становішча і да сыстэмы бальшавіцкага ладу, да СССР, як гэта ён зрабіў у адносінах да Польшчы. Няяснасьці новага "верую" Тарашкевіча перашкаджаюць яму стацца ўзапраўдным і д э о л ё г а м, а разам з гэтым, і правадыром беларускага народу.

Працэс ТБШ.- Цягам апошніх некалькіх гадоў адбылося столькі беларускіх палітычных працэсаў і вынесена столькі суровых прыгавораў, што працэс ТБШ не выклікаў асаблівага ўзварушаньня сярод бел.грамадзянства. Усе, па аналёгіі з папярэднімі працэсамі, рахавалі, што абвінавачаныя будуць засуджаны, ды што з гэтым працэсам перастане існаваць беларуская культурна-асьветная пляцоўка ТБШ. Аднак сталася іначай. Суд апраўдаў галоўных кіраўнікоў ТБШ з гр. Стэцкевічам на чале. Гэта ў нашым гаротным жыцьці быў запраўдны "цуд". Так, чаловыя асобы ТБШ апраўданы, арганізацыя існуе, але гэта яшчэ ня значыць што можна сьвяткаваць перамогу.

З боку уладаў сталася ўжо трафарэтам, адносіцца да беларускіх і культуральных установаў, як да палітычных, апанаваных камуністамі, і рабіць з гэтага адпаведныя высноўкі. На жаль ні абвінавачаныя, ні тым больш абарона, не падумалі на прыкладзе ТБШ давясьці беспадстаўнасьць падобных трафарэтных абвінавачаньняў. Толькі з боку аднаго сьведкі гр. С.Паўловіча была зроблена спроба праліць крышку праўдзівага сьвятла на распачлівы стан беларускіх культурных і грамадзкіх установаў, дзеяльнасьць якіх, дзякуючы падобным закідам, праўда не даказаным, цалком спаралізована. Сьведка Паўловіч сьцьвердзіў, што бел. культурныя ўстановы, як і кожныя праўдзівыя культурныя пляцоўкі, маюць на мэце і вядуць толькі культурную працу. Ён даў і другое ня менш важнае паказаньне перад судом,- гэта адношаньні ТБШ да групкі Астроўскага і Луцкевіча. Суду хацелася даведацца аб

гэтым пыталіся амаль што не кожнага падсуднага|, дзеля чаго сябры ТБШ не хацелі супрацоўнічаць з Астроўскім і Луцкевічам. Сьведка, выказываючы фактычна думку ўсяго беларускага грамадзянства незалежнага, падкрэсьліў, што з Астроўскім і Луцкевічам немагчымае супрацоўнічаньне дзеля таго, што яны адыйшлі ад беларускай справы і цяпер працуюць над д э н а ц ы я н а л і з а ц ы я й сваіх братоў-беларусаў.

Паказаньні сьведкі Паўловіча прыцьмілі паказаньнем другога сьведкі студ. Засіма. Гэты апошні пабываў і ў камсамольскіх гуртках і ў Саветах, а цяпер тут мае стыпэндыю і вучыцца на ўнівэрсытэце |вядома, якая такому можа быць вера! |. Паводле паказаньняў Засіма, супярэчных з тлумачаньнямі Паўловіча, выйшла, што бел.гімназія за часы яго бытнасьці ў ёй прадстаўляла сабою амаль не камуністычны мурашнік. Болей за усё, прыкра тут тое, што сьведку Засіма выставіла абарона і дзеля таго толькі, каб давясьці, што на аднаго з абвінавачаных кіраўнікоў ТБШ ў бел. гімназіі глядзелі, як на апартуніста! На заканчэньне абаронца адв. Петрусэвіч у сваей прамове прасіў суд трох абвінавачаных кіраўнікоў ТБШ апраўдаць, параўновываючы іх з гр.Р.Астроўскім, апраўданьне якога ў працэсе "Грамады" дало "добры скутак".

Суд, як відаць, прыхіліўся да становішча абаронцы адв. Петрусэвіча і трох галоўных кіраўнікоў ТБШ з гр. Стэцкевічам на чале апраўдаў. Што тычыцца рэшты абвінавачаных у гэтым працэсе, дык іх засудзілі ад 2-3 гадоў кожнага.

Пасьля доўгай навуковай сьпячкі "Бел.Навуковага Т-ва" ў Вільні, 5-га сакавіка с.г. адбыўся яго 15-ці гадовы юбілей у салі Бел.Гімназіі |філіі Славацкага|.

Аб "навуковай працы" Т-ва прачытаў рэфэрат сэкратар Т-ва д-р.Мікола Ільляшэвіч, а магістар М.Шкялёнак рэфэрат - "У 300-я ўгодкі сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі."

---

Рэдактар-Выдавец М. Чарнэцкі.

Адрас Рэдакцыі: Млынова №2 - 39

---

